**На прастор, на шырокі разлог**
**Выходзі, мой народ, грамадою…**
Якуб КОЛАС

**№ 24 (1837)**

Серада, 11 лютага 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -13...-11, уначы — -13...-15, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — -6...-4, уначы — -12...-10, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — -10...-8, сонечна, уначы — -13...-11, снег; у Віцебску ўдзень — -16...-14, уначы — -17...-15, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -9...-7, снег, уначы — -17...-15, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -14...-12, уначы — -18...-16, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Больш за 800 мільёнаў рублёў не атрымалі гомельскія дзеці

Доўг па выплаце дзіцячых дапамог у Гомельскай вобласці перавысіў 800 млн. рублёў. У некаторых раёнах дапамогі не выдавалі на працягу 4—6 месяцаў. Такія факты зафіксаваны ў Лельчыцкім, Кармянскім, Хойніцкім, Жыткавіцкім раёнах. Пра гэта паведаміў старшыня абласнога Фонду сацыяльнай засцярогі **Аляксандр Ярчак** на аператыўнай нарадзе ў Гомельскім аблвыканкаме.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Прадпрымальнікі Барысава падтрымалі віцябчан

9 лютага ў Барысаве прайшоў мітынг у падтрымку віцебскіх прадпрымальнікаў і правядзення ўсеагульнай папераджальнай забастоўкі прадпрымальнікаў 12 лютага.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Лідэры апазіцыі ў Вашынгтоне

Днямі пачаўся чатырохдзённы візіт у Вашынгтон прадстаўнікоў беларускай апазіцыі. У склад дэлегацыі ўвайшлі лідэры Народнай кааліцыі **"5+"**, а таксама дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі з групы "Рэспубліка" **Валерый Фралоў** і прадстаўнік дэмакратычных сіл з Гродна **Аляксандр Мілінкевіч**.

Паездка ажыццяўляецца па запрашэнні амерыканскага сенатара **Джона МакКейна.**

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Новыя сады Беларусі

Каля 500 гектараў новых садоў будзе закладзена сёлета ў гаспадарках Беларусі. У іх будзе пасаджана каля 600 тысяч саджанцаў пладова-ягадных дрэў і кустоў.

Як паведаміў начальнік дэпартамента плодаагароднінай прадукцыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання **Аляксандр Белавусаў,** на гэтыя мэты ўрад Беларусі выдзеліць ільготную бюджэтную пазыку ў суме 3 мільярдаў рублёў.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Хлеб не зачарсцвее...

Навукоўцы Інстытута механікі металапалімерных сістэм імя В.А.Белага Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі распрацавалі плёначныя ўпаковачныя матэрыялы, якія павялічваюць тэрмін захоўвання харчовых прадуктаў у паўтара-два разы.

Эфект працяглага захоўвання дасягаецца дзякуючы ўтрыманню ва ўнутраным слаі плёнкі ў якасці актыўных дабавак прыродных і хімічных кансервантаў і антыаксідантаў.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

### Ад рэдакцыі

*Ліст З.Пазьняка друкуецца пад рубрыкай "Асабісты погляд". Але праблема, якую ён разглядае, мае надзвычай важнае значэнне для ўсёй краіны.*

*Сапраўды, ці ёсць сэнс удзельнічаць у выбарах па сцэнарыі тых, хто сваёй банкруцкай палітыкай давёў краіну да жабрацтва, хто дбае не столькі пра дабрабыт людзей, колькі пра тое, як надалей утрымаць уладу? Ці можа быць свабодным волевыяўленне народа без змен у Выбарчым кодэксе? Ці можна лічыць выбары дэмакратычнымі, калі ўлады ўзурпіравалі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, з усіх сіл душаць незалежныя?..*

*У З.Пазьняка свой погляд і на дзеянні тых, хто называе сябе апазіцыяй. Стрэлы ляцяць і ў бок тых замежных структур, якія, на думку Зянона Станіслававіча, падтрымліваючы "кіруемую апазіцыю", аказваюць мядзведжую паслугу Беларусі.*

*"Народная воля" — не трацейскі суддзя. Артыкул З.Пазьняка публікуем без каментарыя. Толькі яшчэ раз заўважым: тэма размовы — архіважная. Ад таго, па якім шляху пойдзе Беларусь, і будзе залежаць яе будучыня.*

*Калі ліст З.Пазьняка выкліча шырокую дыскусію, "Народная воля" з задавальненнем прадаставіць свае старонкі яе ўдзельнікам.*

**АСАБІСТЫ ПОГЛЯД**

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
*старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ*

# Байкот

На кастрычнік 2004 года рэжым Лукашэнкі плануе правесці на Беларусі выбары ў парламент ("палаты"). Усе выбары і рэферэндумы, якія праводзіліся перад гэтым, паказалі, што рэжымам створана шырокая, паслухмяная і праверaная машына галасавання. Не мае значэння, як галасуюць выбаршчыкі, важна, каб яны ўдзельнічалі ў галасаванні. Машына заўсёды зробіць так, каб галасы былі на карысць рэжыма.

Усё грунтуецца на адміністрацыйным рэсурсе, які фарміруе і кантралюе ўсе выбарчыя камісіі, ад участковых да Цэнтральнай. У той жа час сам "адміністрацыйны рэсурс" цалкам і жорстка кантралюецца вышэйшай уладай рэжыму.

Грамадскае назіранне над галасаваннем практычна ліквідаванае. Назіральнікаў не дапускаюць да назірання за падлікам галасоў, а ў большасці выпадкаў — і да назірання за працэсам галасавання. Скаргі і пратаколы назіральнікаў не прымаюцца пад увагу.

Рэжым поўнасцю кантралюе ўсе электронныя сродкі масавай інфармацыі і ўвесь друк (у тым ліку і так званы "незалежны", акрамя мясцовых самадзейных лісткоў). Кандыдатаў, альтэрнатыўных рэжыму, не дапускаюць выступаць у СМІ.

Трэба ўлічыць адсутнасць дэмакратыі ў краіне, існаванне рэжыму дыктатуры, бясправе і недэмакратычнасць Закона аб выбарах. Парламент Лукашэнкі не мае рэальнай заканадаўчай самастойнасці, напалову прызначаецца і поўнасцю кантралюецца Лукашэнкам.

У гэтай сітуацыі той, хто для рэжыму "не свой", праз галасаванне не праходзіць. Машына не прапускае. Змагару з рэжымам выстаўляць сваю кандыдатуру ў такіх "выбарах" — гэта значыць выступаць у ролі дурня, ці яшчэ горай — ідыёта. Але самае дрэннае — гэта азначае падыгрываць антынароднаму рэжыму, сцягваць яму выбаршчыкаў на галасаванне, забяспечваць ягонай прапагандзе аргументы для стварэння бачнасці нібыта "дэмакратычных" выбараў (маўляў, глядзіце, удзельнічаюць альтэрнатыўныя кандыдаты і розныя партыі).

Удзел больш паловы выбаршчыкаў у галасаванні абазначае, што выбары адбыліся. Гэта дае магчымасць рэжыму скарыстаць "машыну" і фактычна зрабіць выбары дэкаратыўнымі, а потым гаварыць нібыта пра "адпаведнасць закону". Рэжым зацікаўлены, каб выбаршчыкі ішлі на выбары па ягоным сцэнарыі.

Зусім іншая карціна ўзнікае, калі выбаршчыкі не прыходзяць галасаваць, байкацірую́ць галасаванне. Сфальсіфікаваць выбары ў такім выпадку значна цяжэй. У выніку байкоту фальсіфікацыйная машына пракруціцца ўхаластую. Правал несправядлівых выбараў у выніку байкоту будзе азначаць правал рэжыму Лукашэнкі і перамогу народа. Гэта ўздыме дух салідарнасці ў людзей. Грамадства набудзе ўпэўненасць у сабе і здольнасць да змагання. Узнікне іншая сітуацыя, у якой паўстане пытанне аб новых выбарах прэзідэнта (без удзелу Лукашэнкі). З'явіцца шанц пакончыць з антыбеларускім рэжымам.

Звернем увагу, што ўлады рэжыму разумеюць небяспеку байкоту для сістэмы фальсіфікацыі. Каб пазбегчы правалу, яны прыдумалі (і ўнеслі ў антыдэмакратычны закон) так званае "папярэдняе галасаванне", якое доўжыцца цэлы тыдзень і практычна недасягальнае для грамадскага кантролю. На працягу тыдня ўлады пад прымусам і пад пагрозай звальнення з працы штурхаюць людзей на выбарчыя ўчасткі і прымушаюць галасаваць. Распрацаваныя таксама метады прымусу для студэнтаў, навучэнцаў, ваеннаслужачых, чыноўнай бюракратыі, калгаснікаў і г.д. У час прэзідэнцкіх выбараў 2001 года на асобных участках (папярэдняга галасавання) набралі такім метадам больш за 50% прагаласаваўшых (што з'яўляецца антызаконнай прафанацыяй выбараў). Пытанне, як прагаласавалі такія "папярэднія" выбаршчыкі, можна не задаваць, як рабіліся патрэбныя рэжыму вынікі — і дурню вядома.

Наступны метад пазбягання байкоту выбараў (які ўжываюць пераважна ў сельскай мясцовасці) — гэта аб'езд выбаршчыкаў з пераноснымі урнамі для галасавання (галасаванне "па дамах"). Ні ціск на выбаршчыкаў, ні напаўненне урны бюлетэнямі практычна немагчыма ў гэтым выпадку пракантраляваць. Таму метадам "падворнага абходу" шырока карыстаюцца фальсіфікатары.

Аднак у гэтай сітуацыі найбольшай здрадай і небяспекай зрыву байкоту з'яўляецца ўдзел у недэмакратычных выбарах нібыта альтэрнатыўных кандыдатаў ад палітпартый ды груп, якія разам з агентурай КДБ агітуюць народ ісці на выбары і галасаваць за "апазіцыю" ды за іншых "сяброў народа", а ў рэальнасці выкарыстоўваюць сродкі замежных датацый, бессаромна займаюцца так званым "палітычным бізнесам".

Справа тут няпростая, бо "кіруемая апазіцыя" створана на Беларусі ў асноўным знешнімі сіламі па сумеснай праграме Мінскай Місіі АБСЕ і КДБ. Аб гэтым нядаўна прызнаўся былы кіраўнік Місіі АБСЕ ў Мінску (і былы кіраўнік знешняй разведкі Нямеччыны) Ганс-Георг Вік (гл. "Белорусская газета", 2004, 12 студзеня). "Кіруемая апазіцыя" — гэта не адраджэнцкая апазіцыя. Яна была задумана насуперак беларускаму нацыянальна-дэмакратычнаму руху і як разбуральная альтэрнатыва Беларускаму Народнаму Фронту, які ў 1991 годзе вярнуў незалежнасць краіны і спыніў дзейнасць КПСС на Беларусі.

Падстаўная апазіцыя, арганізаваная Гансам Вікам і КДБ з былой наменклатуры, з агентуры, з былых паплечнікаў Лукашэнкі, з прамаскоўскіх партый (тыпу АГП і камуністаў), з асоб, што займаюцца "палітбізнесам", і з людзей, якія дрэнна арыентуюцца ў палітыцы. Яна цалкам кантралюецца КГБ (асабліва кіраўніцтва) і фінансуецца з-за мяжы.

Менавіта замежныя функцыянеры ад палітыкі і грошадаўцы патрабуюць ад аплачаных апазіцыянераў удзельнічаць у ненармальных выбарах, ствараць ненармальныя "кааліцыі" і агітаваць выбаршчыкаў на заведамае ашуканства. Гэтакай бізнес-кааліцыяй з'яўляецца, напрыклад, так званая "пяцёрка плюс" (у народзе называюць "шасцёрка мінус"), дзе сабраліся групоўкі ад лібералаў да камуністаў. Яны (пачуўшы пах замежных грошай) і агітуюць за ўдзел у недэмакратычных выбарах, хоць самі ж бессаромна гавораць, што ў парламент ніхто з кааліцыі не пройдзе.

У аснове замежных патрабаванняў дзве прычыны. Першая — гэта поўнае неразуменне беларускай рэальнасці, характэрнае для шмат якіх цяперашніх еўрапалітыкаў. Яны мяркуюць, што "выбары 2004 года трэба выкарыстаць для дэмакратызацыі становішча ў Беларусі і пашырэння правоў парламента", што ў любых выбарах трэба ўдзельнічаць, каб набіраць "палітычны вопыт". (Хаця зразумела, што пасля правядзення выбараў па сцэнарыі Лукашэнкі іхны набыты "вопыт" нікому не спатрэбіцца, бо гэта не вопыт, а нешта іншае.)

Другая прычына больш сур'ёзная. Гэта палітычны інтарэс тых, хто дае грошы падстаўной апазіцыі і заказвае музыку. (Напрыклад, нямецкі інтарэс у легалізацыі рэжыму Лукашэнкі і ўплыванне на яго ці таемная падтрымка здачы Беларусі пад Расію дзеля змяншэння транзітнай прасторы ды зручнага вырашэння пытання з Калінінградскай вобласцю і г.д.)

Мой шматгадовы палітычны вопыт на Захадзе пераконвае мяне, што шмат якім еўрапалітыкам з АБСЕ ды Еўрасаюзу (асабліва нямецкім) нашыя беларускія праблемы, лёс нашай незалежнасці, беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай эканомікі, фінансаў, а зрэшты, і лёс беларускай дэмакратыі — зусім не цікавяць. Іх цікавяць толькі свае палітычныя ды эканамічныя інтарэсы ў Беларусі і ў сувязі з гэтым — свае ліберальныя паняцці аб дэмакратыі як сродку забеспячэння інтарэсаў.

Замежныя грошы на аплату падстаўной апазіцыі вельмі нашкодзілі беларускаму грамадству і будучыні беларускай дэмакратыі, бо дэмаралізавалі частку палітычна актыўных людзей.

З падстаўной апазіцыяй, з палітбізнесам, які яна спарадзіла, і з умяшаннем ва ўнутраныя справы Беларусі разбуральных чужых грошай і хціўых людзей неабходна змагацца ўсяму беларускаму грамадству. Беларускую дэмакратыю і беларускую палітыку павінны падтрымліваць не замежныя, а беларускія грошы, бо чужыя грошы даюцца дзеля чужых інтарэсаў. Але трэба памятаць: не грошы вырашаюць у палітыцы, а дух змагання.

Аднак акрамя функцыянераў, людзей "заангажаваных" і свядомых канфармістаў, у падстаўной апазіцыі і вакол яе ёсць шмат асоб, якія, магчыма, недастаткова прааналізавалі становішча, не ўсведамляюць, у якую нядобрую справу іх цягнуць, засланяючыся гучнымі словамі і карыснымі абяцаннямі. Менавіта гэтыя людзі могуць ацаніць рэчаіснасць, адысці ад супрацоўніцтва з калабарантамі і далучыцца да байкоту недэмакратычных, ненармальных і ўжо прадвызначаных рэжымам выбараў.

Поспех байкоту — гэта шанц на грунтоўныя перамены ў Беларусі.

Мы, беларусы, мусім добра ўсвядоміць тое, чаму вучыць нас (і не толькі нас) нацыянальная гісторыя: сваю дзяржаву, сваю незалежнасць і свой парадак мы можам стварыць толькі самі, сваім розумам, сваімі рукамі і сваімі грашыма.

Падтрымлівайце байкот антыдэмакратычных выбараў. Далучайцеся да Ініцыятывы "Беларуская Салідарнасць", якая зыходзіць ад Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ, што арганізуе байкот. Стварайце групы ІБС, агітуйце за няўдзел у несправядлівых выбарах. Рыхтуймася да новых выбараў прэзідэнта!

# Стратегия партнерских отношений

**Колин ПАУЭЛЛ,**
**Государственный секретарь США**

Размышляя сегодня на тему внешней политики США, большинство людей обращает внимание главным образом на различные аспекты войны с терроризмом, такие как реконструкция Ирака и Афганистана, проблемная ситуация на Ближнем Востоке и существование подпольных террористических групп в Юго-Восточной Азии, в Европе и даже в самих Соединенных Штатах. Эта озабоченность понятна. Международный терроризм в буквальном смысле попал в цель 11 сентября 2001 года и, по понятным причинам, разгневанная американская общественность хочет, чтобы виновные были преданы правосудию, а внешняя политика проводилась так, чтобы подобные события не могли повториться.

Война с терроризмом останется главным приоритетом внешней политики Соединенных Штатов настолько долго, насколько это окажется необходимым, поскольку терроризм — в сочетании с возможным распространением оружия массового поражения — сегодня представляет самую серьезную угрозу для жизни американцев. Но это не значит, что терроризм — единственная проблема, которая нас волнует.

У Президента Джорджа Буша есть концепция более совершенного мира. И у него есть стратегия, способная превратить эту концепцию в реальность. Впервые президентская стратегия был изложена публично в сентябре 2002 года в форме Стратегии национальной безопасности Соединенных Штатов (СНБ). Эта масштабная и глубокая стратегия, заглядывающая далеко в будущее и учитывающая в себе в равной степени как открывающиеся перед Соединенными Штатами возможности, так и грозящие нам и другим странам опасности.

Стратегию США часто обвиняют в односторонности. Но это не так. Ее часто обвиняют в перекосе в сторону военных решений. Но и это не так. Ее часто представляют как зацикленную на угрозе терроризма, а следовательно, предрасположенную к глобальным военным усилиям на предупреждение этой угрозы. И абсолютно безосновательно.

Прежде всего президентская стратегия являет собой стратегию партнерских отношений, которые убедительно подтверждают важнейшую роль НАТО и других альянсов, в том числе и ООН, участником которых являются США.

Любое партнерство основывается на принципах. В основу президентской стратегии положен принцип поддержки свободы и человеческого достоинства во всем мире. "Америка должна твердо отстаивать незыблемые принципы, гарантирующие уважение человеческого достоинства: власть закона, ограничение абсолютной власти государства; свободу слова, свободу вероисповедания, всеобщее равенство перед законом, соблюдение прав женщин, терпимость в межрелигиозных и межэтнических отношениях, уважение к частной собственности", — заявил президент. Сегодня, как и прежде, мы твердо придерживаемся этих ценностей. Именно этим ценностям и служат создаваемые и поддерживаемые нами партнерства.

Заметное место в президентской стратегии занимают свободная торговля и новые американские инициативы по экономическому развитию, а также участие в содействии разрешению региональных конфликтов, таких как конфликт между Израилем и Палестиной.

Еще одним приоритетом является установление отношений сотрудничества между крупнейшими мировыми державами. Именно это является ключевым условием успеха в войне с терроризмом.

Мы не рассматриваем войну с терроризмом и налаживание конструктивных отношений между ведущими державами как взаимоисключающие задачи. Мы ведем войну с терроризмом, ориентируясь на сотрудничество между ведущими державами, и стремимся укрепить сотрудничество великих держав с прицелом на успех в войне с терроризмом. Логика этого двойного подхода опирается на тот факт, что терроризм угрожает самому мировому порядку и тем самым создает общий интерес всех держав, которые ценят мир, благосостояние и власть закона.

Как отметил президент Буш, "сегодня великие державы мира оказались по одну сторону баррикад". Это достижение — не просто хорошая новость. Это революционная новость. На протяжении слишком многих лет, слишком многих веков империалистические амбиции стран расточали несметные ресурсы и таланты на завоевание земель, славы и золота. Тщетность подобных амбиций стала очевидной в XXI веке. Обладание бескрайними территориями, полезными ископаемыми и грубой силой не гарантирует ни процветания, ни мира. Это могут гарантировать инвестиции в человеческий капитал, социальное доверие, торговля и сотрудничество внутри стран и между ними.

Таким образом, источники национальной силы и безопасности одной страны больше не обязаны угрожать безопасности других стран. Прозорливое утверждение американских основателей о том, что политика не обязательно должна быть соревнованием с нулевой суммой, наконец-то принято достаточным количеством людей в мире, чтобы надеяться на качественные изменения в характере международных отношений. Если вместо того чтобы жертвовать жизнями людей и растрачивать богатства на противостояние друг другу, как это было в прошлом, большинство стран сегодня приложат усилия в одинаковом направлении, чтобы решить общие для всех проблемы, мы начнем искупать перед историей многочисленные человеческие глупости.

Мы не должны воспринимать как должное нынешний мир между странами мира. Различия интересов могут и сейчас приводить нации к столкновению. Нам надо терпеливо работать над этим, не забывая, что в прошлом большие войны вспыхивали, несмотря на всеобщую убежденность, что этого просто больше не может случиться.

Разумеется, мы хотим отстаивать человеческое достоинство и демократию во всем мире, чтобы помочь людям подняться из бедности и преобразовать недостаточно эффективную систему мирового здравоохранения. К осуществлению этих целей мы сейчас стремимся. Но лишь в том случае, если удастся, говоря словами президента, "сохранить, защитить и расширить" прочный мир нашей эпохи, мы сможем преследовать эти цели столько времени, сколько понадобится для их достижения.

И, несомненно, это главные цели американской политики в XXI веке. Мы боремся с терроризмом, потому что должны, но мы стремимся к лучшему миру, потому что можем построить его, потому что таково наше желание и предназначение. Именно поэтому мы привержены демократии, развитию, мировому здравоохранению и правам человека, равно как и созданию необходимых условий для прочного мира во всем мире. Это не пышные декорации для наших интересов. Это и есть наши интересы, цели, которым служит наша мощь.

И по этой причине Соединенные Штаты сохранят свою репутацию честности и сострадания. Сегодня мотивы США в некоторых странах подвергают сомнению. Но поскольку мы сохраняем, защищаем и расширяем мир, завоеванный свободными народами в XX веке, то и в XXI мы добьемся того, что Соединенные Штаты будут оправданы в глазах всего мира.

Глупо было бы утверждать, что внешняя политика администрации Буша всегда оставалась безошибочной. Все мы люди, все ошибаемся. Но мы всегда действовали, отдавая себе отчет в интересах американского народа, и в наших целях и наших принципах нет ошибок.

Наша разумная ориентация на собственные интересы дает нам преимущество над террористами, тиранами и другими, кто желает нам зла. Нам не нужны ни их советы, ни признание нас с их стороны. И пусть они не ждут пощады с нашей стороны. Но наши просвещенные интересы побуждают нас быть партнерами со всеми, кто дорожит свободой, человеческим достоинством и миром. Мы знаем, на чьей стороне пребывает человеческий дух, и из этого черпаем воодушевление, строя нашу стратегию. В конце концов, только этот стимул нам действительно необходим.

**ПОЗИЦИЯ**

***Ольга АБРАМОВА:***

# «Свадебным генералом я быть не желаю...»

*Как известно, приглашение поехать на международную конференцию в Латвию получили не только представители белорусской оппозиции, но и некоторые депутаты Палаты представителей, в частности — **Ольга Абрамова**.*

*Вначале Ольга Михайловна согласилась поехать в Ригу, однако потом резко передумала. Почему? Об этом она рассказала вчера на встрече с журналистами, посвященной перспективам развития белорусско-российских отношений.*

"Я действительно получила приглашение на форум, который несколько дней назад завершился в Риге, — говорит Ольга Михайловна. — Тематика мне показалась интересной, и я решила поехать. Но дальше произошла такая, я бы сказала, неприятная история...

Я получаю приглашение, на котором стоят высокие подписи. Ни программу конференции, ни список участников мне не прислали, хотя, учитывая уровень конференции, должны были. Естественно, я сразу обратилась к сотруднику посольства Латвии и попросила предоставить мне список участников и выступающих. Ознакомившись с ним, я попросила обязательно зарезервировать мне время для выступления, потому что у меня другая версия на многие политические процессы, происходящие в Беларуси, чем у значительной части внесистемной белорусской оппозиции. Я попросила сотрудника посольства связаться с организаторами и сообщить мне об их решении. Ответа не было. Я еще раз обратилась в посольство и подчеркнула, чтобы мне в любом случае сообщили о решении до определенной даты, поскольку необходимо поставить в известность Совет Палаты (специально ради этой конференции отпуск брать не хотелось — впереди парламентские выборы и он может понадобиться для других целей). И предупредила, что если мне не дадут слова, то прошу не считать меня участником конференции. Свадебным генералом я быть не желаю.

Я не получила вообще ответа. Ни в какой форме. И поэтому отправилась в Россию за свой счет. Там провела достаточно результативные переговоры. Встретилась с одним из руководителей российского Совета по внешней и оборонной политике, известным аналитиком **Сергеем Карагановым,** президентом Российского союза промышленников и предпринимателей **Аркадием Вольским,** председателем "Яблока" **Григорием Явлинским** и его заместителем **Сергеем Иваненко**. Мы договорились о продолжении политического сотрудничества в различных формах".

**Марина КОКТЫШ.**

# Открытое письмо

***Национальной государственной телерадиокомпании Республики Беларусь***

*Копии:*
*Посольство Чешской Республики в Республике Беларусь*

*Главным редакторам газет:*
*"Советская Белоруссия", "Комсомольская правда" в Белоруссии", "Аргументы и факты" в Белоруссии", "Народная воля", "Белорусская газета", "Белорусская деловая газета"*

Все. Хватит. Не могу терпеть!

Как отец троих несовершеннолетних детей обращаюсь таким способом к руководству государственной телерадиокомпании.

29 января 2004 года Белорусское телевидение после окончания блока вечерних новостей показало по Первому Национальному каналу так называемого правозащитника Е.Новикова с телепрограммой, посвященной правам человека в Чехии.

В глубоко оскорбительной форме автор передачи приписывает чешскому народу аморальные и противоправные действия — не только безнравственные, но и просто преступные.

Оказывается, бывший президент Чехии Вацлав Гавел со своей демократией довел страну до такого состояния, когда в этой стране матери вынуждены продавать в сексуальное рабство даже своих только что родившихся и еле-еле научившихся разговаривать детей.

У меня просто язык не поворачивается повторить все сказанное автором в этой телепередаче.

После ее просмотра у меня сложилось чувство стыда за наше, по моему мнению, обезумевшее телевидение. Как можно дать эфир автору, который с удовольствием, на мой взгляд, достойным сексуального извращенца, около 10 минут смаковал тему сексуального рабства детей в отдельно взятой стране?! Это же насколько нужно ненавидеть в первую очередь свой белорусский народ, чтобы такой грязью и мерзкостью с экрана телевизора на всю страну поливать народ Чехии!

**Обращаюсь к руководству Национальной телерадиокомпании:**

— остановите безумие!

— прекратите позорить нашу страну и белорусский народ!

— прекратите насильственное разжигание межнациональной вражды!

— не травмируйте психику наших детей подобными "телеправозащитниками"!

— отстраните от телеэфира Е.Новикова!

**Обращаюсь к Посольству Чешской Республики в Республике Беларусь, а в его лице и ко всему чешскому народу:**

— простите, если сможете!

— от рядовых граждан Республики Беларусь приношу вам свои извинения за происходящее на государственном телевидении!

— уверен, высказанное на всю страну мнение о вашей стране не подтверждается ни одним конкретным фактом и не может претендовать на истину;

— убежден, время даст объективную оценку и этим действиям.

**Обращаюсь к средствам массовой информации:**

— с целью доведения содержания настоящего открытого письма до неравнодушных и солидарных с моим мнением граждан нашей страны прошу напечатать его с указанием моих координат;

— уверен, я не одинок в своем мнении относительно телепередач "правозащитника" Е.Новикова, и таким способом я намереваюсь начать кампанию по сбору подписей граждан в поддержку отстранения Е.Новикова от телеэфира.

**Обращаюсь к гражданам Республики Беларусь:**

— давайте вместе прекратим это безумие!

— пишите, звоните, и, я уверен, мы вместе защитим в первую очередь своих детей от подобных телепередач на государственном телевидении.

**Леонид СУДАЛЕНКО,**
**житель г.Гомеля.**

*(Тел. 8-0296-54-70-11, г.Гомель, ул. Волгоградская, д.33, кв.44.)*

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Шимон Перес предложил Израилю и Палестинской автономии вступить в ЕС

Министры иностранных дел Палестинской автономии и Испании в ходе двусторонней встречи в Мадриде поддержали идею о вступлении Израиля и Палестинской автономии в Европейский Союз. С данной инициативой выступил в минувшие выходные лидер израильской партии "Авода" Шимон Перес. По мнению Переса, вступление Израиля и ПА в ЕС может стать значительным стимулом для ускорения мирного процесса на Ближнем Востоке.

В свою очередь министр иностранных дел ПА Набиль Шаат заявил, что Европейский союз должен выступить с подобным предложением, поскольку дал право на вступление в союз Кипру.

## За неделю народного восстания на Гаити погибли более 40 человек

Трое человек были убиты в ходе перестрелки между сторонниками и противниками правительственного режима в портовом городе Сент Марк, находящемся приблизительно в 70-ти километрах от столицы Гаити Порт-о-Пренс. Народное восстание началось около недели назад в городе Гонаив. К понедельнику жители еще 10 городов на севере и западе государства присоединились к мятежникам и потребовали отставки нынешнего президента страны Жана Бертрана Аристида.

Премьер-министр страны Ивон Нептун сообщил агентству, что полиции Гаити до сих пор не удается восстановить порядок в регионе. Кроме того, в эфире национального телевидения он заявил, что "подобные вспышки насилия в стране приравниваются к государственному перевороту".

## В Антарктиде упал британский вертолет

Вертолет Lynx королевских ВВС Великобритании, обеспечивавший сопровождение судна ледового патруля HMS Endurance и исследовательского судна Ernest Shackleton, упал в воскресенье вечером в Антарктиде, на берегу моря Уэдделла. Причины аварии сейчас выясняет специально организованное расследование. Пятеро членов экипажа получили различные травмы. Всех их доставили на корабль, а затем троих наиболее сильно пострадавших через британскую исследовательскую станцию "Хэлли" переправили за пределы Антарктики.

## 15 мышей отправятся в космос познавать жизнь на Марсе

Американские и австралийские ученые разрабатывают совместный проект по изучению воздействия марсианской гравитации на земные организмы. С этой целью предполагается в 2006 году запустить на земную орбиту космический аппарат, на борту которого будут находиться 15 мышей. Пустив аппарат по низкой орбите, ученые собираются создать в нем искусственную гравитацию, похожую на марсианскую — для этого он будет крутиться вокруг своей оси. Мыши проведут в аппарате пять недель, после чего они должны будут вернуться на Землю в спускаемом модуле. Ученые будут наблюдать за тем, как пониженная гравитация воздействует на организмы мышей — полученные данные помогут ученым предусмотреть возможные риски, связанные с негативным воздействием пониженной гравитации на организмы космонавтов при будущем полете на Марс.

Кроме того, ученые предполагают, что данный эксперимент, возможно, поможет бороться с такой болезнью, как остеопороз — люди, страдающие этим заболеванием, постепенно теряют костную массу — аналогичный эффект наблюдается и при воздействии на живые организмы пониженной гравитации.

## Судью убийц Джинджича обвиняют в связях с мафией

Адвокаты обвиняемых в убийстве премьер-министра Сербии Зорана Джинджича потребовали отвода для председателя суда. По словам юристов, судья Марко Кляевич поддерживает контакты с белградской организованной преступной группировкой, конкурирующей с группировкой фигурантов дела об убийстве главы сербского правительства. Требуя отвода Кляевича, адвокаты приводили данные из ряда сербских СМИ, выходивших в декабре прошлого года. Согласно опубликованным материалам, судья использовал свое судебное положение, чтобы получить разрешение на ведение бизнеса для жены одного из лидеров белградской организованной преступности. "Вы опозорили все сербское правосудие и зародили недоверие к правовой системе", — заявил один из адвокатов.

С ЛЕНТЫ БИ-БИ-СИ

## Саакашвили пробует «начать с чистого листа»

Вчера в Москву впервые прибыл с официальным визитом новый президент Грузии Михаил Саакашвили. Многие в России считают его откровенно прозападным деятелем. К тому же у российско-грузинских отношений непростая история и пока неясное будущее. Накануне визита в Россию Михаил Саакашвили заявил, что хочет "заложить положительную тенденцию для будущего развития отношений" между двумя странами. Невозможно за один день решить все накопившиеся проблемы, но можно и нужно начать обсуждать их, добавил грузинский президент.

С чего здесь начинать? Политолог Сергей Марков заявляет, что будь он на месте Саакашвили, начал бы с установления хороших личных отношений.

"Михаил Саакашвили хочет стать грузинским Путиным. Он намеревается по максимуму брать пример с российского президента, установить в стране порядок и решить многие проблемы", — полагает Марков.

По словам политолога, Саакашвили "начинает поднимать Грузию из той ямы, в которую ее загнало прежнее руководство, все эти многочисленные Шеварднадзе, бандиты, Гамсахурдия и прочие".

Саакашвили не раз заявлял, что не позволит никому извне, включая и Россию, диктовать, как дальше развиваться Грузии, но ее экономическое положение плачевно, и зависимость страны от той же России, прежде всего энергетическая — налицо.

Кстати, накануне визита в Россию Саакашвили публично отказался от технической помощи Международного валютного фонда, которая подразумевает следование указаниям МВФ в области экономической стратегии. Правда, новый грузинский президент попросил у МВФ продолжения кредитования и помощи в реструктуризации грузинского долга перед Парижским клубом.

### Зазорно ли Саакашвили быть западником?

Многие в России считают Михаила Саакашвили прозападным деятелем, а потому пессимистически оценивают перспективы российско-грузинских отношений. Политолог Андрей Пионтковский придерживается иного мнения и утверждает, что "большинство наших комментаторов называют Саакашвили проамериканским, прозападным деятелем. Характеризуя таким образом лидеров наших соседей, мы как бы навязываем им выбор: или Россия, или Запад. Это совершенно неконструктивный и бесперспективный подход".

"Смешно им отказываться от своей ориентации на Европу, когда мы сами об этом все время говорим. И Россия, и Запад — этот подход был бы плодотворным и позволил бы России сохранить свои позиции в этом регионе", — считает Пионтковский.

Если стороны будут готовы к взаимным компромиссам, то тогда они смогут начать новую историю этих отношений с "чистого листа", как это предлагает Михаил Саакашвили.

## «Отца пакистанской атомной бомбы» ждут новые допросы

Создатель пакистанской атомной бомбы Абдул Кадир Хан не получил полного прощения за продажу ядерных технологий Ирану, Ливии и Северной Корее. Находящийся под домашним арестом ученый может быть вызван для новых допросов. Расследование по его делу все еще продолжается. Прощение же, которое он получил от президента Первеза Мушаррафа, можно считать условным, так как оно было дано после телевизионного выступления, в котором Хан извинился за свои поступки.

Новые факты следствие собирается передавать в МАГАТЭ. В пакистанском МИДе журналистам сообщили, что доктор Хан сотрудничает с властями, и от его готовности продолжать это сотрудничество зависит то, какое наказание к нему применят.

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# Блакітная посцілка

На світанне яшчэ і не бралася, а Зіна Гамановіч была ўжо на нагах.

— Паспала б яшчэ, — адазвалася са свайго кутка стрыечная сястра Люба. Уся ноч прайшла ў трывозе. Відаць, нехта на станцыі ўзарваў цыстэрны з гаручым, бо так палымнела. Толькі нядаўна стала патухаць.

— Немцы цяпер будуць стаяць на ўсіх дарогах, асабліва на пераездзе. Цяжка табе будзе праехаць. Да таго ж яны на яўрэяў аблаву ладзяць. Цяжка будзе... — папярэдзіла Люба.

— Што ж зробіш, — прамовіла Зіна. — Не першы раз еду. Зімой цяжэй было, а цяпер — лета.

Яна і сапраўды часта наведвалася ў горад, што быў у якіх дзесяці кіламетрах ад іхняга сяла, прывозіла розныя прадукты і выменьвала тут на соль, вопратку.

Пакуль крыху паснедалі, запрэглі каня, неба ўжо заружавела. Зіна выехала са двара, і калёсы затарахцелі па бруку вуліцы, што вяла на ўскраіну горада, дзе пачыналася дарога да яе родных Ліжнікаў. Раптам убачыла на вуліцы нямецкую машыну. За рулём нікога не было, затое ў двары аднаго з дамоў гергеталі фашысты, чуўся жаночы енк, заходзілася ад плачу дзіця. Нечакана з двара выскачыла маладая яўрэйка. Яна падбегла да Зінінага воза і кінула туды нейкі пакунак.

— Хутчэй едзь адсюль, родненькая!... Зберажы яго, не аддавай немцам.

Сказаўшы гэта, яўрэйка кінулася ў суседні двор, а Зіна са страху сцебанула дубцом па кані. Ён што ёсць моцы панёсся па вуліцы.

За возам ніхто не гнаўся, і, выскачыўшы за горад, конь пайшоў павольна. Зіна яго не прыспешвала. Толькі цяпер яна ўспомніла пра пакунак, што ўкінула ў воз яўрэйка. Адхіліла блакітную посцілку, у якую ён быў закручаны, і ўбачыла смуглы тварык маленькага, гадкоў чатырох, хлопчыка. Ён быў такі спалоханы, што не прамовіў ні слова, нават не заплакаў.

Кабета зноў захіліла ражок посцілкі і са страхам падумала, што будзе з ёю, калі раптам гэты пакунак зацікавіць немцаў? Застрэляць і малога яўрэйчыка, і яе. А дома ж, у родных Ліжніках, старая хворая маці ды маленькі Уладзік, які і так пакрыўджаны лёсам, бо расце без бацькі. Зінка прыжыла яго ў дзеўках.

— Не дачакаюцца яны ні мяне, ні солі, — з трывогай думала маладзіца. — Можа, выпусціць гэтае дзіцянё і няхай ідзе, куды вочы глядзяць? Міну пераезд ды так і зраблю. У бліжэйшай вёсцы выпушчу на вуліцу. Хто-небудзь падбярэ, дагледзіць, — знайшла рашэнне.

Але, пад'язджаючы да пераезда, убачыла, што там сабралася шмат фашыстаў. Яны спынялі і пешых, і конных, абмацвалі вопратку, рыліся ў вазах. У Зіны памлелі рукі і ногі. Усё... стукала малаточкамі ў скронях кроў. — Усё...

Нядужымі ад страху рукамі яна выблытала з блакітнай посцілкі маленькага яўрэйскага хлопчыка і пасадзіла сабе на калені, а калі пад'ехала да пераезду, саскочыла з воза і падбегла да нямецкага афіцэра:

— Забяры, паночку, на дарозе падабрала, каб вам здаць, — і працягнула маленькага.

— Гут! — пахваліў немец. Ён узяў дзіцятка і кінуў яго ў кузаў грузавіка, што стаяў побач. Малы, відаць, аб нешта стукнуўся, бо моцна заплакаў.

— Гут! — зноў паўтарыў немец, паказваючы рукой, што Зіна можа ехаць.

Кабета ўжо далёка ад'ехала ад пераезду, а ў вушах усё яшчэ стаяў дзіцячы плач.

Дома яна нікому не расказала пра тое, што здарылася ў дарозе. На пытанне маці, адкуль у яе блакітная посцілка, сказала, што выменяла на бульбу.

Вайна рабіла сваю страшную справу: яна касіла людзей не толькі на франтах, але і ў вёсках. Захварэўшы на запаленне лёгкіх, неўзабаве памерла Зініна маці, а праз паўгода ўтапіўся ў вясковай сажалцы яе маленькі сынок. Быў ён тады акурат у такім узросце, як той яўрэйскі хлопчык. Зіна думала, што сэрца разарвецца ад гора і болю, што не зможа яна жыць на свеце адна, як былінка ў полі. Але час — найлепшы лекар. Гора было ўсюды, няшчаснымі былі ўсе, і маладзіца неяк звыклася са сваім становішчам, цягнула ў адзіноце нудныя і шэрыя, як шарачковая нітка, дні.

Вайна закончылася. У вёску пачалі вяртацца яе жыхары. Хто да хат, хто да папялішчаў. У Зіны хата ацалела, і яна адчувала сябе гаспадыняй. Мабыць, дзякуючы гэтай акалічнасці яна хутка знайшла сабе прымака: да суседа прыехаў франтавы сябар — бязрукі інвалід Сцяпан, якому не было куды падацца, бо ўсю сям'ю і сядзібу знішчылі немцы недзе аж пад Бранскам. Сусед пасватаў яму Зіну, і неўзабаве Сцяпан перанёс да яе свой фанерны чамадан і стары паношаны шынель.

Аднойчы, было гэта на другі год пасля вайны, яснай летняй раніцай Зіна павесіла на дварэ для прасушкі ўсё сваё багацце са старога, яшчэ мацярынскага, куфра: шарсцяныя хусткі, спадніцы, сувой палатна, посцілкі. Была сярод іх і тая посцілка, што некалі разам з хлопчыкам кінула ў воз маладая яўрэйка: па блакітным полі вытканы сінія васількі. Прыгожая, можна сказаць, шыкоўная рэч. Зіна не магла адарваць ад яе позірку.

— Што, дабром сваім любуешся? — спынілася ля варот Кацярына Мельнічыха з таго канца вёскі. Зіна аж падскочыла ад нечаканасці, нібыта яе засталі за ганебным заняткам.

— А ў нашым канцы ходзіць нейкая яўрэйка, — паведаміла далей Кацярына. — Сама маладая, а валасы ўсе сівыя. Пытае, ці не бачыў хто маленькага хлопчыка. Нібыта яна ў час вайны кінула яго ў воз нейкай жанчыне. Ні вёскі, адкуль тая жанчына, ні імя яе не ведае. Але ходзіць, пытае... Бедная. Хіба знойдзе яна дзіцятка пасля такой калатнечы. Тут дарослыя гінулі, як мухі, а то дзіцятка...

Ледзь дачакаўшыся, пакуль Кацярына адыдзе ад варот, Зіна зняла з плоту блакітную посцілку і памчалася з ёю ў хату. Зачыніўшы дзверы на засаўку (добра, што Сцяпана якраз не было), яна затаілася ў хаце. Потым падышла да печы, у якой яшчэ не патух жар, і кінула на яго посцілку. Блакітную тканіну адразу ж пабіла на чорныя плямы-прапаліны, а потым уся яна ўзялася полымем.

Зіна стаяла ля акна і праз шчыліну паміж паркалёвымі занавескамі сачыла за вуліцай, чакала, калі прыйдзе ў іхні канец вёскі тая яўрэйка. І дачакалася. Худая, з сівымі валасамі, што так не пасавалі да маладога твару, яна пільна ўглядалася ў Зініна дабро, што сушылася ў двары, потым адчыніла брамку і зайшла на падворак. Грукнула ў дзверы, але, убачыўшы, што яны замкнёны, зноў пайшла на вуліцу, азірнулася на сядзібу. Шукала сляды свайго сыночка... І не знаходзіла...

Яўрэйка павалі пайшла далей, а Зіна стаяла ў здранцвенні. Ёй стала страшна. І тады яна ўпершыню падумала, які подлы ўчынак здзейсніла, аддаўшы немцам такога маленькага хлопчыка. Яна ратавала сваё дзіця і маці, а дзе яны цяпер? Абое ляжаць у зямлі. Не ўратавала...

— Дагнаць яе, расказаць усю праўду! — Зіна памкнулася да дзвярэй і ўжо ўзялася за клямку.

— Не дарує... І ніхто мне не дарує, калі Бог не дараваў. Так і буду жыць у страху і ў вечным граху, — праносіліся ў галаве думкі. — Посцілку спаліла, а дзе, на якім вогнішчы спаліць памяць? Дзе знайсці лекі ад душэўных пакут, бо з імі ж прыйдзецца жыць да канца дзён?

Мінуў год. У адну з летніх раніц ад Зіны пайшоў Сцяпан. Жыццё ў іх не ладзілася, і ён сабраў свае небагатыя пажыткі ды накіраваўся на родную Браншчыну, дзе жыла адзінокая старая цётка. А праз некалькі дзён суседка паведаміла Зіне:

— Ці чула ты, тая яўрэйка, што летась хадзіла па вёсцы і шукала хлопчыка, звар'яцела?

— А дзе яна цяпер? — аж устрапянулася Зіна.

— Сядзіць на ўскрайку вёскі пад крыжам і размаўляе са сваім сыночкам. Відаць, уяўляе, што ён бегае каля яе і яна то шчаслівая смяецца, то расказвае яму нешта на яўрэйскай мове... Бедная, — гаротна прамовіла суседка. — Прападзе, бо, казалі, адна і засталася на ўсім белым свеце. А яшчэ Бог розум адняў.

І раптам нібы што падштурхнула Зіну:

— Не прападзе! — прамовіла цвёрда. — Я вазьму яе да сябе. Удзвюх будзем гора гараваць.

Яна рашуча пайшла ў канец вёскі да крыжа, дзе адзінока сядзела і смяялася свайму страчанаму шчасцю гаротная яўрэйка.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ЛЮБОПЫТНО

## Прикинулся грузом

25-летний менеджер склада из Нью-Йорка отправил себя в качестве посылки на грузовом самолете. В качестве причины этого необычного поступка он назвал тоску по дому и нежелание платить за авиабилет до Далласа. Чарльз Маккинли проделал путь длиной в 2400 километров еще в ноябре прошлого года, будучи упакованным в ящик размером 106х91х38 сантиметров. Счет за доставку груза на сумму в 550 долларов был направлен транспортной компанией владельцу склада.

Груз был доставлен на грузовике в аэропорт после того, как кто-то помог молодому человеку закрыть ящик и оформить накладную. Маккинли повезло, что он летел в отапливаемой кабине грузового самолета, где поддерживалось нормальное давление. По его словам, у него был мобильный телефон. К тому же путешественник не взял с собой ни воды, ни еды.

После приземления в аэропорту Далласа посылку доставили его родителям в пригород, где Чарльз Маккинли вылез из ящика к изумлению доставившего груз водителя, который и сообщил о происшедшем в полицию. Суд приговорил Маккинли к штрафу в 1500 долларов и году тюрьмы условно. Кроме того, ему предстоит провести четыре месяца под домашним арестом.

## Танцовщиц обвинили в подрыве дисциплины

Командование американских Вооруженных сил в Южной Корее обратилось к местным властям с просьбой запретить так называемые приватные танцы в ночных клубах, расположенных рядом с военными базами США. Непристойные танцы, по мнению армейского руководства, негативно влияют на состояние воинской дисциплины. Представитель 2-й пехотной дивизии американской армии, расквартированной на границе с Северной Кореей, назвал "приватные экзотические танцы" основной причиной недисциплинированного поведения военных и призвал владельцев ночных клубов запретить "любой физический контакт" между танцовщицами и военнослужащими.

Военные сообщили, что аналогичные меры, направленные на укрепление нравственности, предпринимаются и на других военных базах на территории США и за рубежом. Однако они отказались уточнить, что подразумевается под падением воинской дисциплины.

ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ

# Паедзем у Германію?

(Працяг. Пачатак у №19.)

## 2.Замуж за немца

Так, гэта верны шлях атрымаць грамадзянства Германіі. Той, хто ўзяў шлюб з грамадзянінам ФРГ, адразу атрымоўвае бестэрміновы від на жыхарства.

Трэба адзначыць, што з пачатку дзевяностых гадоў, калі апусцілася "жалезная заслона" і межы сталі больш адкрытымі, колькасць інтэрнацыянальных вяселляў стала расці. Што датычыцца Германіі, то немцы часцей пачалі заглядвацца на славянскіх прыгажунь з Расіі, Беларусі і Украіны. Колькасць шлюбаў з імі узрастае.

Але, атрымліваючы такім чынам грамадзянства Германіі, ці знаходзяць славянскія нявесты шчасце? Аналітыкі сцвярджаюць відавочнае: адны шлюбы шчаслівыя, другія — няўдалыя. Праўда, у іх высновах ёсць і цікавыя моманты, якія дарэчы ведаць нявестам і жаніхам з Усходу. Аб іх расказала ў студзені радыё "Нямецкая хваля". Вядома ж, не ўсе нашы чытачы рэгулярна слухаюць яго, таму я перакажу асноўны змест перадачы "Выйсці замуж за немца", у якой прааналізаваны дзве кнігі, што летась пабачылі свет.

Адну з іх напісала Тацццяна Акаменюк з горада Альдэнбург. Яна так і называецца: "Замужам за немцам". У ёй расказана пра тое, да чаго няпроста прызвычаіцца славяніну ў Германіі. "Немцы не дрэнныя, яны іншыя — піша Тацццяна. — У іх іншая сістэма каштоўнасцяў. Тое, што мы называем скупасцю, яны — беражлівасцю, што мы "стукачэством", яны — выкананнем грамадзянскага абавязку..."

Кніжку "Выйсці замуж за немца" напісала Тацццяна Розіна з Кёльна. Яна — філосаф па прафесіі. У свой час у Растоўскім універсітэце напісала дыплом на тэму "Маральнае рэгуляванне сямейных адносін". У Германіі, працуючы над кнігай, апытала многіх мужчын. Дарэчы, папрацавала ў шлюбным агенцтве і кансультацыйным пункце. Яна прыйшла да высновы, што больш за ўсё засмучае нашых жанчын у нямецкіх мужчынах адсутнасць "шырыні душы" і скваласць. Вядома, піша яна, немцы проста прывыклі лічыць свае грошы, яны ўсё разлічваюць наперад. Калі і за што заплаціць, калі ехаць у адпачынак, купіць новую машыну... І таму немец не прыйдзе з работы раптам з букетам кветак ці дарагім падарункам без прычыны, як гэта нярэдка бывае на Радзіме. Немец можа нават ганарыцца тым, што ўстрымаўся і не раскашэліўся на падарунак проста так.

Пры першым спатканні ён можа з гонарам заявіць, што прыехаў не на ўласнай машыне, а гарадскім транспартам, дзякуючы чаму сэканоміў пэўную суму. Маўляў, вось такі я беражлівы. Для славянскай жанчыны гэта нярэдка становіцца шокам: маўляў, сэканоміў на спатканні са мной пару еўра і яшчэ выхваляецца.

Аўтарка пыталася ў нямецкіх мужчын: ці не сорамна ім выстаўляць сябе такімі скваплівымі? Яны яе не разумелі і сцвярджалі: мы ж хацелі спадабацца, паказаць сябе з лепшага боку, што ўмеем эканоміць.

Сёй-той мяркуе, што, зыходзячы з прынцыпаў эканоміі, немцы шукаюць на Усходзе не жонку, а гаспадыню дома. Тацццяна Розіна абвяргае такое меркаванне. Работніцу па доме можна знайсці і ў самой Германіі, і каштаваць такая паслуга будзе нядорага.

Многія нямецкія мужчыны з сумам казалі, што нават пры моцным каханні руская жанчына, на жаль, ім не па кішэні. Бо яна прывозіць з сабой шэраг няпростых праблем. Яе трэба тут уладкаваць, а ёй — забраць сюды сваю маці, бясконца званіць па тэлефоне...

Чаму ж яны, такія розныя па менталітэце, ды цягнуцца адзін да аднаго? Розіна дае такі адказ: "Немцаў чаруе славянская цеплыня і пяшчота, а славянак — надзейнае плячо нямецкіх мужчын". Цікава, што многія немцы, у якіх не склаўся раз ці нават два шлюб з нашай жанчынай, усё роўна шукаюць чарговую жонку на Усходзе.

Так што нездарма філосафы сцвярджаюць, што прыцягваюцца менавіта супрацьлегласці.

Варта падкрэсліць, што, шукаючы мужа за мяжой, многія нашы жанчыны моцна рызыкуюць. Паведамленні многіх СМІ як нашых, так і замежных сведчаць, што можна трапіць у лапы гандляроў "жывым таварам" і замест чакаемага шлюбу аказацца ў бардэлі.

Не так даўно ў Берліне адбыўся працэс над эмігрантам з Украіны. Па даных следства ён займаўся вярбоўкай прастытутак з Украіны і Польшчы. На судзе выступіла адна ўкраінка. Яна расказала, што на Радзіме была настаўніцай. Абвінавачваемы выманіў яе за мяжу, абяцаў уладкаваць горнічнай. У Берліне яе згвалцілі, прымусілі стаць "жанчынай па выкліку", адбіралі амаль увесь заробак.

Толькі за адзін год праваахоўнымі органамі Германіі выяўляецца прыкладна 800 ахвяр такіх гандляроў. Каля 5 працэнтаў з іх яшчэ не дасягнулі паўналецця. Прычым выявіць такіх ахвяр вельмі складана. Так што на самай справе іх у некалькі разоў больш.

У асноўным "жывы тавар" паступае з Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Асабліва шмат — з Расіі, Літвы, Украіны. Хапае і з Беларусі. Вярбуюць іх сюды падманным шляхам. Дзяўчат пераконваюць, што яны будуць працаваць афіцыянткамі ці сядзелкамі каля пажылых людзей. А як прывозяць да месца прызначэння, дык прымушаюць быць прастытуткамі.

Цікавыя звесткі прыводзіць папулярны нямецкі штотыднёвік "Шпігель". Ён сцвярджае, што 70 працэнтаў ахвяр такога бізнесу — жанчыны з краін Усходняй Еўропы. Згодна з даследаваннем Савета Еўропы, за мінулыя дзесяць гадоў прыбытак арганізатараў перапраўкі "жывога тавару" праз межы вырас у 4 разы. Цяпер у іх руках у Еўропе знаходзіцца прыкладна паўмільёна жанчын, якія займаюцца прастытуцыяй. У год яны прыносяць сваім гаспадарам каля 13 мільёнаў еўра прыбытку.

Такім чынам, існуе цэлая добра адладжаная сістэма падпольнага бізнесу па гандлі людзьмі — вярбоўка, перапраўка праз межы і продаж ахвяр у публічныя дамы. Жанчына, якая шукае дарогу да лепшай долі ў замежжы, даволі лёгка можа трапіць у сетку дзялкоў заганнага бізнесу. А выпутацца з яе амаль немагчыма. Часопіс "Шпігель" піша, што, на жаль, нават некаторыя паліцаі, якія расследуюць справы па прастытуцыі, самі робяцца кліентамі такіх паслуг. На якую абарону можна разлічваць ад іх? Становішча пагаршаецца і ад таго, што многіх паліцэйскіх перакідваюць адсюль на барацьбу з тэрарызмам.

Чытач можа сказаць: але ж многія едуць, і некаторыя някепска ўладкоўваюцца, будучы нават нелегаламі. Так, ёсць і такія. Аб іх раскажу ў заключнай публікацыі. Пакуль жа адзначу, што Германія стала другой пасля ЗША краінай па колькасці замежных грамадзян, абышоўшы Англію і Японію. Тут ёй няма роўных у Еўропе. Хаця, калі браць працэнтныя суадносіны да карэннага насельніцтва, дык замежных грамадзян больш за ўсё ў Люксембургу і Швейцарыі. Лепш уладкавацца ў Еўропе спецыялістам па інфарматыцы, біятэхналогіі, ахове здароўя, выхаванні і рабоце з дзецьмі. У Італіі і Грэцыі можна адшукаць працу на фермерскіх гаспадарках, у Партугаліі і Англіі — на будоўлях і ў сферы па доглядзе хворых і пажылых.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

(Заканчэнне будзе.)

## П'еса на конкурс

*На конкурс п'ес, які праводзіцца пад дэвізам "Дзень Перамогі" і прысвечаны тэме Вялікай Айчыннай вайны, ужо праслана больш за 10 твораў.*

Конкурс быў абвешчаны ў кастрычніку 2003 года Міністэрствам культуры Беларусі і працягнецца да 25 красавіка. П'есы прымаюцца да 15 сакавіка.

Паводле слоў галоўнага спецыяліста ўпраўлення мастацтваў міністэрства Вацлава Валадзько, на конкурс прымаюцца шматактныя п'есы або інсцэніроўкі паводле твораў беларускіх драматургаў для драматычных тэатраў. Для ўладальніка першай прэміі ўстаноўлены грашовы прыз у памеры 165 базавых велічынь (цяпер адна базавая велічыня складае 17.500 рублёў). Для дзвюх другіх прэмій — па 125 базавых велічынь, для трох трэціх — па 100 базавых велічынь. Устаноўлены і іншыя заахвочвальныя прэміі рознага ўзроўню.

У конкурсе разам з моладдзю плануюць браць удзел і прызнаныя мэтры. Аднак асаблівая надзея ўскладзена менавіта на творчую моладзь.

П'есы-лаўрэаты будуць прапанаваны тэатрам для пастановак, частку іх плануецца падтрымаць дзяржаўным заказам. Апрача таго, будзе выдадзены зборнік п'ес, паведаміў В.Валадзько.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ПРЫХОДЗЬЦЕ!

## Паэт і лампада

Паважанае спадарства! **Людміла Паўлікава і Алесь Камоцкі** запрашаюць вас на сустрэчы "ПАЭТ І ЛАМПАДА", якія адбудуцца:

15 лютага ў Бібліятэцы імя Янкі Купалы, пачатак а 12-й гадзіне;

20 лютага ў Чырвоным касцёле, пачатак а 19-й гадзіне;

6 сакавіка ў Палацы моладзі, пачатак а 15-й гадзіне.

Уваход вольны.

# Калі жыццё не на радасць

*Сумніўную славу лідэра краіны па колькасці самазабойстваў атрымала, згодна са статыстыкай, Віцебшчына, дзе ў 2003 годзе добраахвотна рассталіся з жыццём 622 чалавекі. Гэта азначае, што самагубствы ў вобласці адбываліся кожныя 12 гадзін — па два на суткі.*

Сярод самазабойцаў — не адны абяздоленыя — псіхічна хворыя, алкаголікі або асобы, даведзеныя да адчаю нішчымніцай. Ахвярамі суіцыду сталі людзі розных узростаў — ад школьнікаў да пенсіянераў, розных прафесій і сацыяльнага становішча — ад беспрацоўных да дырэктараў буйных прадпрыемстваў, ад шэраговых салдат да заслужаных генералаў. Розныя і спосабы развітання з жыццём: адны выбіраюць атруту, другія — кулю або вяроўку, трэція сягаюць уніз з высокіх паверхаў.

Сярод рэгіёнаў вобласці першынство па самазабойствах утрымлівае Віцебск: тут за год пакончылі з жыццём 118 чалавек — на 18 больш, чым год таму. Страшная статыстыка зніжае напружанасць па меры шчыльнасці насельніцтва: у Оршы летась было 43 выпадкі самагубства, у Навапалацку — 38, у Полацку — 27.

Найлепшае становішча — ва Ушацкім раёне, дзе ў 2003 годзе скончылі самагубствам два чалавекі — у пяць разоў менш, чым за год да таго.

Безумоўна, у кожнага самазабойцы свая прычына для ракавога рашэння, але нельга не прыйсці да высновы, што гэтая з'ява — прыкмета нездаровага грамадства.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

МАЛАВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# Так і будзем славіць тырана?

Аб тым, што рабска-лакейскае ўслаўленне Сталіна набыло не менш пачварны змест пасля яго смерці, чым пры жыцці, засведчыў адзін з папулярных расійскіх часопісаў у адзінаццатым нумары за мінулы год. Аказваецца, пасля пахавання "правадыра ўсіх народаў" на імя сакратара ЦК КПСС М.С.Хрушчова паступіла чарговая зводка прапаноў савецкіх грамадзян па ўвекавечанні памерлага, для якіх ён па-ранейшаму заставаўся "вялікім і мудрым". Найболей адметнымі ў той зводцы былі прапановы перайначыць Грузінскую ССР у Сталінскую ССР, СССР — у Саюз Сталінскіх Сацыялістычных Рэспублік, а горад Маскву — у горад Сталін... І хоць да знакамітага ХХ з'езда КПСС, на якім быў развенчаны культ асобы "бацькі народаў": яшчэ быў час. Мікіту Сяргеевічу хапіла розуму (а ведаў ён тады аб злачынствах правадыра нямала), накіраваць тыя прапановы ў архіў.

На жаль, дух Сталіна і праз паўвека пасля яго смерці яшчэ канчаткова не выветрыўся з многіх старэчых партыйных галоў. Варта прыгадаць хаця б перадачу па БТ 7 лістапада 2003 года з Мінска, калі ў калоне камуністаў крычала немаладая жанчына з вялізным партрэтам Сталіна ў руках. І ні адзін міліцыянт нават не спыніў яе...

Між іншым, у Германіі шэсце па вуліцах з партрэтам Гітлера і знакам свастыкі караецца вялікім грашовым штрафам альбо турэмным зняволеннем. Нам бы пераняць разумныя захады па выкараненні духу таталітарызму.

**Алесь ВОЛАТ.**

*г.Слуцк.*

